# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 12 (199)
снежань 2018



Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”

## У НУМАРЫ:

**2018 год з “Бацькаўшчынай”**

Працяг на старонцы 2.

**“Нам патрэбна агульная анлайн-пляцоўка”**

Як прайшоў II Беларуска-нямецкі форум НДА

Працяг на старонцы 3.

**Па кнізе Віктара Марціновіча “Возера радасці” знялі фільм**

30-хвілінная драма беларускага рэжысёра Аляксея Палуяна была ўзятая ў міжнародны конкурс на галоўны ў свеце кінафестываль кароткага кіно Клермон-Феран.

Працяг на старонцы 5.

**Узнагароджанне Медалём да стагоддзя БНР**

Старшыня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі падпісала адпаведны дэкрэт.

Працяг на старонцы 6.

**“Магдаленай Радзівіл я зацікавіўся як жанчынай”**

У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь было прадстаўлена дакументальнае даследаванне жыцця і дзейнасці Магдалены Радзівіл з роду Завішаў, кніга Віктара Хурсіка “Vale!”.

Працяг на старонцы 8.




# САРДЭЧНА ВІНШУЕМ ВАС З КАЛЯДАМІ І НОВЫМ ГОДАМ!

Дарагія сябры!

Сардэчна віншуем Вас з Калядамі і Новым годам!

Няхай у надыходзячым годзе ўтульны агмень нашага сяброўства зробіцца яшчэ цяплейшым і засвеціць ярчэй! А добрыя эмоцыі і радасць Вам прынясуць не толькі гэтыя святочныя дні, але і паўсядзённая праца, якую Вы робіце на карысць нашай Бацькаўшчыны.

Зычым моцнага здароўя, радасці і цяпла, натхнення і сіл, добрых спатканняў і новых здзяйсненняў!

Будзьма разам!

**Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**




## ЯСКРАВЫЯ ТЭЛЕГРАМ-СТЫКЕРЫ АД “БУДЗЬМА!”

Месяц таму “Будзьма!” выдала набор стыкераў “Ёсць нагода для карагода!”. І ён зацікавіў не толькі дзяцей, але і дарослых. Тады мы паабяцалі, што найлепшыя з нашых налепак з’явяцца неўзабаве і ў Telegram. Прамоўлена – зроблена!

Цяпер два дзясяткі яскравых стыкераў даступныя для бясплатнага спампоўвання. Усталёўвайце сабе, дасылайце сябрам і знаёмым, камунікуйце, чытайце нашую класіку і пішыце самі! І не забывайцеся, што друкаваныя налепкі ўсё яшчэ можна набыць у кнігарнях.

Будзьма разам!

https://t.me/addstickers/bybudzma

навіны "Бацькаўшчыны"

# 2018 ГОД З "БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ"

Спадарства! Дзякуй, што былі з намі ў мінулым годзе! Толькі паглядзіце, колькі ўсяго карыснага ў нас атрымалася зрабіць з вашай дапамогай.

### Удасканаленне заканадаўства

У сакавіку "Бацькаўшчына" на падставе аналізу існуючых законаў "Аб беларусах замежжа", "Аб грамадзянстве" і "Аб сродках масавай інфармацыі", кодэксаў Рэспублікі Беларусь "Аб культуры" і "Аб адукацыі" і статуту Нацыянальнай акадэміі навук накіравала ў Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў ліст з прапановамі па карэкціроўцы заканадаўства ў сферы адносін з беларусамі замежжа.

Таксама ў адказ на зварот дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Алены Анісім і Ганны Канапацкай Згуртаванне падрыхтавала агляд пра выкарыстанне беларусамі замежжа першага дзяржаўнага сцяга Беларусі – гэта мусіць паспрыяць прыняццю праекта закона "Аб выкарыстанні і ахове першага дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь".

### Удасканаленне адукацыі

На падставе грунтоўнага аналізу школьнай праграмы, зробленага на замову "Бацькаўшчыны", у Нацыянальны інстытут адукацыі, Міністэрства адукацыі, Адміністрацыю прэзідэнта, на імя старшыні Пастаяннай камісіі Палаты Прадстаўнікоў па адукацыі, культуры і навуцы і ў Міністэрства замежных спраў былі дасланыя прапановы па ўключэнні ў навучальныя праграмы культурнай спадчыны беларусаў замежжа.

### Гісторыя і культура

У лютым прах вядомай беларускай мецэнаткі Магдалены Радзівіл, які быў перададзены беларусамі Швейцарыі Каталіцкаму Касцёлу ў часе Сёмага з'езда беларусаў свету, быў перапахаваны ў мінскім касцёле Святога Роха.

Напярэдадні 25 сакавіка ў Купалаўскім парку з ініцыятывы культуролага Маргарыты Пяровай быў усталяваны помнік Антону і Івану Луцкевічам – "Бацькаўшчына" спрыяла атрыманню дазволу на яго ўстаноўку.

Працягваючы справу 2017-га года, калі ў Беларусі з ініцыятывы кампаніі "Будзьма беларусамі!" адзначалася 500-годдзе выдання першай друкаванай Бібліі на беларускай мове, у мінулым годзе "Бацькаўшчына" звярнулася да грамадскасці з просьбай падтрымаць дзейнасць пробашча касцёла Св. Сымона і Алены Уладыслава Завальнюка ў справе беатыфікацыі Францыска Скарыны.

Улетку кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" падпісаліся пад калектыўным лістом да прэзідэнтаў Германіі, Польшчы, Аўстрыі і Ізраіля з заклікам уключыць Курапаты ў праграму сваіх візітаў у Беларусь.

20 верасня Згуртаванне ўзяло ўдзел у пасяджэнні Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве замежных спраў.

У снежні, "Бацькаўшчына" выступіла ў ролі аднога з арганізатараў II Беларуска-нямецкага форума па наладжванні партнёрстваў.

30 кастрычніка на Заходніх могілках Мінска высілкамі "Саюза беларускіх пісьменнікаў" быў усталяваны надмагільны помнік Леаніду Маракову, выраблены скульптарам Ігарам Засімовічам. Да ўшанавання вядомага даследчыка сталінскіх рэпрэсій спрычыніласяі "Бацькаўшчына".

Разам з Таварыствам беларускай мовы, Саюзам беларускіх пісьменнікаў, Беларускім добраахвотным таварыствам аховы помнікаў гісторыі і культуры, Саюзам беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын, Гістарычнай майстэрняй імя Леаніда Левіна, Беларускім саюз мастакоў і Беларускім саюз дызайнераў ЗБС "Бацькаўшчына" стварылі ініцыятыўную групу па стварэнні Арганізацыйнага камітэта па усталяванні помніка беларусам – праведнікам народаў свету, людзям, якія ратавалі яўрэяў падчас Халакосту.

### Выдавецкая дзейнасць

Як і ў мінулыя гады, "Бацькаўшчына" працягвае актыўную выдавецкую дзейнасць. У серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" выйшла ўкладзеная Лявонам Юрэвічам кніга пра паэта і ўплывовага дзеяча беларускага замежжа Масея Сяднёва "Pro et contra" і ўкладзеныя даследчыцай Наталляй Гардзіенка ўспаміны вядомай беларускай мастачкі Тамары Стагановіч-Кольбы (дачкі Аляксандра і Марыі Стагановічаў) "Абрэзкі з мінулых гадоў". Гэтыя кнігі былі прэзентаваны на Беларускім фестывалі інтэлектуальнай кнігі "Прадмова".

Для серыі "Спадчына: агледзіны" Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч падрыхтавалі кнігу "Як укладалі Спадчыну", прысвечаную гісторыі выдання ў 1955 годзе зборніка нецэнзураванага Купалы ў Мюнхене.

У траўні пабачыла свет пяцісотстаронкавая кніга нарысаў, эсэ, лірычных замалёвак і публіцыстычных артыкулаў Радзіма Гарэцкага "Апантаны Бацькаўшчынай" – працяг кнігі "Жыццёвы меланж".

Пры спрыянні "Бацькаўшчыны" выйшаў і новы паэтычны зборнік вядомага дзеяча беларускага замежжа ў Канадзе Пётры Мурзёнка "Колеры" – вынік паэтычнага плёну аўтара за апошнія пяць гадоў.

Канец года быў адзначаны выхадам пятага тома "Дзённікаў і запісаў" Рыгора Барадуліна, а таксама традыцыйным выпускам хітовага календара "Не маўчы па-беларуску" ад кампаніі "Будзьма беларусамі!", да якога сёлета дадаліся наборы налепак "Ёсць нагода для карагода".

### Юбілеі

Сыходзячы год быў надзвычай багаты на знакавыя юбілеі.

25 сакавіка ўсе беларусы ў свеце адзначалі 100-годдзе абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Што да "Бацькаўшчыны", то ў ліпені мы адзначалі 25-годдзе правядзення Першага з'езду беларусаў свету – падзеі, якая зрабіла каласальны ўнёсак у справу кансалідацыі беларускага народу. А 1 кастрычніка дзесяць гадоў споўнілася заўважнай і, як паказаў час, вельмі важнай з'яве ў культурным жыцці Беларусі – грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!", ініцыятарам і каардынатарам якой з'яўляецца ЗБС "Бацькаўшчына". Адзін толькі просты пералік праектаў і дасягненняў кампаніі не змясціўся б у гэты артыкул, таму з яе дзейнасцю лепей пазнаёміцца на афіцыйным сайце "Будзьмы" – budzma.by.

Юбілеі святкавалі і сябры Вялікай Рады "Бацькаўшчыны" – 50 гадоў споўнілася заснавальніку Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага, актывісту Іркуцкага моладзевага клубу "Крывічы" Алегу Рудакову; 65 – знакамітаму песьменніку і гісторыку Уладзіміру Арлову; 70 – доктару гістарычных навук, прафесару Захару Шыбеку, які цяпер жыве ў Ізраілі; 80 – кіраўніку аб'яднання беларусаў-мастакоў Балтыі "Маю гонар" і сузаснавальнікаў Таварыства беларускай культуры "Світанак" у Латвіі Вячку Целешу (якога Рыжская Дума прызнала, да ўсяго, Чалавекам году) і, нарэшце, 90-годдзе адзначыў акадэмік Радзім Гарэцкі.

### Страты

Але ў жыцці не абыходзіцца без балючых стратаў.

На самым пачатку 2018 года нас пакінуў знакаміты беларускі мастак, дызайнер і паэт Міхал Анемпадыстаў (16.03.1964–23.01.2018), які шмат гадоў супрацоўнічаў з кампаніяй "Будзьма беларусамі!". У Франкфурце-на-Майне на 108-м годзе жыцця памёр самы стары беларус свету – навуковец Барыс Кіт (06.04.1910–01.02.2018), а праз некалькі месяцаў, у чэрвені, следам за ім на 82-м годзе жыцця адышла ў лепшы свет і ягоная жонка Тамара Казевіч. У лютым прыйшло сумнае паведамленне з Трэнтана (ЗША) пра тое, што не стала мецэнаткі Лёлі Касоўскай (27.09.1933–02.02.2018). У лістападзе беларускую супольнасць агаломшыў раптоўны сыход вядомага беларускага літаратар і даследчык архіваў КДБ і НКУС Уладзіслава Ахроменкі (29.01.1965–09.11.2018), які ў апошнія гады жыў у Чарнігаве.

ЗБС "Бацькаўшчына" ў 2018 годзе страціла двух сябраў Вялікай Рады, якія былі разам са Згуртаваннем ад самага яго заснавання – фальклярыста, літаратуразнаўцу і гісторыка Арсеня Ліса (04.02.1934–28.05.2018) і беларускага грамадска-культурнага дзеяча ў Літве, заснавальніка Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведара Нюньку (06.04.1928–15.08.2018).

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**




## КАЛЯНДАР "НЕ МАЎЧЫ ПА-БЕЛАРУСКУ!"

Замаўляйце каляндар "Не маўчы па-беларуску – 2019" ад кампаніі "Будзьма!"!

Каляндар складаецца з 40 невялікіх гісторый. Дзякуючы падачы матэрыялу ў форме "тыдняў", ён сёлета атрымаўся яшчэ зручнейшым для вывучэння беларускай мовы: назвы пальцаў, вайсковыя каманды, прафесіі, гукаперайманні, жывёлы і скорагаворкі.

Генеральны партнёр выдання – сетка аўтазаправачных станцый "А-100", якая ўзяла чынны ўдзел у падрыхтоўцы выдання. Кампанія "Будзьма беларусамі!" дзякуе таксама крамам "Symbal.by" і "Мой модны кут", моладзеваму аб'яднанню "Фаланстэр".

Папулярная серыя календароў "Не маўчы па-беларуску!" – запатрабаваных беларускамоўных праектаў апошняга часу.

Каляндар "Не маўчы па-беларуску!" можна набыць у мінскіх кнігарнях, а таксама праз інтэрнэт-крамы knihi.by і symbal.by.

навіны "Бацькаўшчыны"

# "НАМ ПАТРЭБНА АГУЛЬНАЯ АНЛАЙН-ПЛЯЦОЎКА". ЯК ПРАЙШОЎ II БЕЛАРУСКА-НЯМЕЦКІ ФОРУМ НДА

У Мінску адбыўся II Беларуска-нямецкі форум НДА па наладжванні партнёрстваў, адным з арганізатараў якога выступіла Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Пасля мінулага Форума ў супольную распрацоўку трапілі чатыры праекты, што ўжо нямала, а сёлетняя сустрэча выглядае патэнцыйна больш "ураджайнай".

Арганізатары запрасілі на форум трынаццаць нямецкіх экспертаў – людзей, якія непасрэдна займаюцца НДА ў Германіі. Літаральна за тыдзень з нямецкага боку паступіла болей за трыццаць заявак на ўдзел.

"Розніца сітуацый у Беларусі і ў Германіі як найменей у тым, што 90 працэнтаў нямецкіх НДА маюць суфінансаванне ад дзяржавы, а некаторыя з часам самі робяцца значнымі палітычнымі гульцамі", – кажа Ядвіга Лукашык з цэнтра "Культыватар".

Усе трынаццаць нямецкіх гасцей Форума маюць пэўныя зацікаўленасці ў супольнай працы з беларускім бокам: ад развіцця цэнтраў мастацтваў і інклюзіўных тэатраў да дапамогі людзям з абмежаванымі магчымасцямі і экалагічных праектаў.

Каб за кароткі час максімальна хутка наладзіць камунікацыю, арганізатары прапанавалі беларускім і нямецкім удзельнікам разбіцца на групы і тэзісна адказаць на пытанні пра перспектывы, праблемы і формы супольнай працы.

### Як пабудаваць нямецка-беларускую супрацу?

Пасля больш чым гадзіны абмеркавання ўдзельнікі Форума прапанавалі наступныя спосабы супрацы і праекты, якія варта рэалізоўваць разам.

Культурніцкія праекты: для іх функцыянавання, прадстаўнікам беларускіх НДА хацелася б часцей сустракацца з нямецкімі куратарамі, якія займаюцца такімі сферамі, як урбаністыка, сучаснае мастацтва, архіўныя фота, экскурсіі па культурніцкіх аб'ектах.

Экалагічныя праекты: стварэнне супольнай адукацыйнай выставы і лікбез для школьнікаў і дарослых па экалагічным ладзе жыцця.

Таксама цікавым праектам выглядае стварэнне беларуска-нямецкай групы па вывучэнні канфліктаў і фармаванні сямейных каштоўнасцяў у дашкольнікаў.

Да таго ж прадстаўнікі Беларусі прапанавалі праект Міжнароднага фестывалю інклюзіўных тэатраў, прысвечанага творчасці дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі, і праграмы абмену досведу паміж беларускімі і нямецкімі бальнічнымі клоўнамі.

Сярод найбольш перспектыўных форм супрацы ўдзельнікі назвалі таксама канферэнцыі, круглыя сталы і талаку. Добры прыклад апошняй – неаднаразовая супраца беларускіх і нямецкіх валанцёраў на гістарычных аб'ектах.

Эфектыўнай формай таксама прызнаныя летнія школы і стажыроўкі.

Супольны валанцёрскі рух можа працаваць з рознымі катэгорыямі людзей, якія маюць патрэбу ў дапамозе: ад працы з людзьмі, што жывуць з ВІЧ, да дапамогі рускамоўным эмігрантам, якія толькі ўліваюцца ў нямецкае грамадства.



Амбасадар Германіі ў Беларусі Петар Дэтмар

Неаднаразова прагучала думка пра стварэнне агульнай інтэрнэт-платформы, дзе прадстаўнікі НДА могуць абменьвацца досведамі і весці пастаянную камунікацыю, а таксама ўдзельнічаць у вебінарах.

### Што можа перашкодзіць?

Беларуска-нямецкія супольныя праекты паспяхова функцыянуюць далёка не першы год, але зрабіць такі праект няпроста. На просьбу арганізатараў прадстаўнікі беларускіх НДА і іх нямецкія калегі склалі таксама спіс пагроз і рызык, якія могуць стаць на шляху супольнай працы.

1. Моўны бар'ер: насамрэч праблема, якая здаецца невялікай у XXI стагоддзі, існуе. Не ўсе валодаюць мовамі, а грошай на якаснага перакладчыка заявак часцяком не стае.

2. Бюракратыя: ужо згаданая вышэй адсутнасць падтрымкі з боку дзяржавы, памножаная на вялікую колькасць справаздачнасці. Да таго ж выпадкі ўмяшальніцтва дзяржавы ў дзейнасць НДА ў Беларусі агульнавядомыя.

3. Розніца менталітэтаў: розніца агульнай культуры, гісторыі ўзроўню жыцця, развіцця валанцёрства часцяком прыводзіць да ўзаемных непаразуменняў.

4. Нястача кампетэнцыі: невялікая колькасць вузкаспецыяльных прафесіяналаў, якія маглі б займацца юрыдычнымі, фінансавымі і іншымі пытаннямі. Кантакты паміж нямецкімі і беларускімі спецыялістамі рэдкія і недастатковыя. Да таго ж беларускія спецыялісты не заўжды разумеюць прынцыпы працы ў Германіі, а нямецкія – у Беларусі.

**Мікалай Левертаў, "Будзьма беларусамі!"**

кніга

# "СПОВЕДЗЬ" ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ ВЫЙШЛА ПА-ЧЭШСКУ

Пасля дзесяцімесячнай працы перакладчыцы і выдаўцоў на гэтым тыдні выйшла ў чэшскім перакладзе кніга мемуараў Ларысы Геніюш "Споведзь".

У чэшскім выданні кніга называецца "Пані доктарава 0-289, або з Чэхаславаччыны да ГУЛАГу".

Кнігу пераклала Святлана Вранава. Гэта ўжо пятая кніга, якую яна пераклала з беларускай. Роўна год таму выйшла кніга турэмнай прозы Змітра Дашкевіча "Чарвяк".

Як паведаміла перакладчыца ў Фэйсбуку, гэтая кніга была вынікам калектыўнай працы. Яна падзякавала чэшскім беларусам Алене Ціхановіч і Сяргею Кнырэвічу за іх працу ў архівах, напісанне тлумачэнняў і каментароў для кнігі, за кансультацыі і карэктуры перакладу.




Вершы Ларысы Геніюш пераклаў для кнігі Макс Шчур. Сямейныя фатаграфіі і іншыя дакументы перадаў для выдання ўнук паэткі Міхась Геніюш.

Кніга выйшла ў Брне ў "Картузіянскім выдавецтве". Выдавец Іржы Браўнэр так тлумачыць, чаму ён далучыўся да гэтага праекту:

"Адзін мой знаёмы, чэх маладзейшага пакалення, не ведаў, што такое ГУЛАГ. Тады я яму даў пачытаць кнігу ўспамінаў пані Соснаравай – яна напалову чэшка, напалову расейка. Разам з расійскай маці, яе і сястру пасля вайны вывезлі ў ГУЛАГ. Тое, з якімі словамі той чалавек потым кнігу вяртаў, мяне абавязвае працаваць надалей", – кажа выдавец Іржы Браўнэр.

На паліцах кнігарняў кніга з'явіцца ў новым годзе.

**"Радыё Свабода"**




навіны

# БАС АДСВЯТКАВАЎ ЮБІЛЕЙ

Арганізатары "Басовішча" адсвяткавалі сваё 30-годдзе. Мерапрыемства мела форму вечарыны для былых і цяперашніх сяброў.

Беларускае аб'яднанне студэнтаў у Польшчы было пакліканае маладымі людзьмі як адзіная незалежная тады арганізацыя беларусаў у Польшчы.

Гэта быў 1988 год, аднак першыя спробы заснавання БАСа студэнты з Беласточчыны рабілі ў пачатку 80-х гадоў.

"Мы сустракаліся ў Беларускім клубе ў Варшаве і там мелі свае тэмы. І можна сказаць, што на базе тых размоў нарадзілася такая мара – стварыць арганізацыю студэнтаў, – кажа Ян Гаворка, які першы ад імя БАСа падаў заяву на рэгістрацыю ў МУС Народнай Польшчы. – Спраwакавала нас да такіх дзеянняў паўстанне "Салідарнасці": мы пабачылі, што можна штосьці зрабіць".

Тады ўлады адмовілі. Пасля сямі гадоў ад першай заяўкі на рэгістрацыю беларускім студэнтам у Польшчы ўдалося зарэгістраваць сваю арганізацыю, кажа Яўген Вапа – першы старшыня БАСа: "Тое, што дабіліся рэгістрацыі ў канцы 88-га года, перад тым, пакуль яшчэ ўзнік круглы стол, дамовы, сведчыць пра нашу напорыстасць і разуменне аднаго: нам, беларусам, як адзіным сярод нацыянальных меншасцяў Польшчы ўдалося зарэгістраваць першую незалежную арганізацыю любой меншасці".

Заснавальнікі і цяперашнія сябры Беларускага аб'яднання студэнтаў сустрэліся ў 8 снежня з нагоды юбілею. Самая галоўная дзейнасць БАСа сёння – гэта арганізацыя фестывалю музыкі маладой Беларусі "Басовішча".

**Радэк Дамброўскі, "Беларускае Радыё Рацыя"**

# КНІГА ПАД РЭДАКЦЫЯЙ ПРАДСТАЎНІКА БЕЛГПП ВЫДАДЗЕНАЯ Ў ІСПАНІІ

Пабачыла свет кніга "Гісторыя іспанскіх інстытутаў: ад Сярэднявечча да нашага часу".

Англамоўная "Гісторыя іспанскіх інстытутаў: ад Сярэднявечча да нашага часу" ("History of the Spanish institutions from the Middle Ages to the present") выдадзеная выдавецтвамі "Dykinson" і "KosmoPolis"

Кніга змяшчае шэраг артыкулаў іспанскіх і замежных даследчыкаў і навукоўцаў, імёны якіх з'яўляюцца сусветна вядомымі: амерыканскі гісторык Жозэф О'Галахан (Joseph F. O'Callaghan), іспанскі эканаміст Габрыэль Тортэлья (Gabriel Tortella), амерыканскі іспаніст Стэнлі Пэйн (Stanley Payne).

Артыкулы прысвечаныя гісторыі, юрыспрудэнцыі, палітыцы. У падрыхтоўцы выдання таксама ўдзельнічалі вядомыя прафесіяналы – ваенныя, супрацоўнікі банкаў, юрысты і г. д. Варта адзначыць, што дадзенае выданне з'яўляецца адным з першых зборнікаў, апублікаваным на англійскай мове, які падае комплекснае даследаванне гісторыі развіцця іспанскіх інстытутаў ад часоў Сярэднявечча да сучаснасці.

Зборнік быў выдадзены па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам выкладчыка Мадрыдскага ўніверсітэта Камплютэнсэ (Universidad Complutense de Madrid), прадстаўніка Беларускай гандлёва-прамысловай палаты ў Іспаніі Алесі Сліжавай, якая таксама з'яўляецца аўтарам артыкула, прысвечанага гісторыі гандлёвай палаты Іспаніі.

**"Новы Час" паводле прэс-службы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Іспаніі**

# ФІЛЬМ "ДАРОГА", ЯКІ ПРАДЗЮСАВАЛА БЕЛАРУСКА, АТРЫМАЎ У ЗША ПРЭСТЫЖНУЮ ПРЭМІЮ

Дакументальны фільм "Дарога" расійскага рэжысёра Дзмітрыя Калашнікава, які прадзюсавала беларуска Вольга Чайкоўская, атрымаў у ЗША прэмію National Film and TV Awards за найлепшы дакументальны фільм.

Уручэнне прэміі адбылося 5 снежня ў Лос-Анджэлесе ў Globe Theatre.

The National Film Awards (Нацыянальная кінапрэмія) – штогадовае ўшанаванне поспехаў як статусных, так і незалежных рэжысёраў, акцёраў і акторак, кастынг-дырэктараў, кампаній і ўсіх, з каго і складаецца індустрыя кіно. Цырымонія адбываецца




чатыры разы на год у Злучаным Каралеўстве, ЗША, Паўднёвай Амерыцы, Афрыцы і Аўстраліі. Намінуюць кандыдатуры і галасуюць за іх аматары кіно. Прэмію ўручае Нацыянальная кінаакадэмія, якія таксама праводзіць новы Нацыянальны кінафестываль.

Вольга Чайкоўская – кінапрадзюсарка (Volia Films) і дырэктарка кінафестывалю паўночных і балтыйскіх краін "Паўночнае ззянне". "Дарога" (The Road Movie) – першы фільм, які яна прадзюсавала.

Стужка расійскага рэжысёра Дзмітрыя Калашнікава была змантаваная з запісаў відэарэгістратараў, зробленых па ўсёй Расіі, і распавядае пра ўсё, што толькі можа адбыцца на расійскіх дарогах.

Прэм'ера фільма адбылася яшчэ ў 2016 годзе ў Амстэрдаме, на фестывалі дакументальнага кіно IDFA.

**"Радыё Свабода"**



# ВЫСТАВА ПРА БЕЛАРУСКАГА ПЕСНЯРА АДКРЫЛАСЯ Ў АРГЕНЦІНЕ

У Нацыянальным кангрэсе Аргенціны адкрылася выстава "Завуся я толькі Янка Купала".

Экспазіцыю падрыхтавалі супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. На адкрыцці прысутнічала дырэктар мінскага музея Алена Ляшковіч.

На старонцы ў Фэйсбуку спадарыня Алена піша: "Шчырая ўдзячнасць Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму Паслу Беларусі Уладзіміру Астапенку і Консулу Беларусі Паўлу Міронаву за ўшанаванне памяці Песняра ў Аргенціне. Самыя цёплыя і шчымлівыя ўражанні ад сустрэчы з беларусамі Аргенціны".

**Кацярына Мядзведская, "Народная Воля"**

# АЛЕГ РУДАКОЎ ДАЎ АДКАЗ НА "ГЕАПАЛІТЫЧНАЕ" ПЫТАННЕ

Алег Рудакоў у эфіры "Еўрарадыё" даў кароткі адказ на геапалітычнае пытанне.

Актывіст Іркуцкага клуба "Крывічы" падзяліўся са слухачамі назіраннем: у Расіі многія беларусы як быццам саромеюцца свайго паходжання, даволі ахвотна змяняюць ідэнтычнасць на прапанаваную, і ў далейшым звычайна называюцца рускімі. Вядучы Зміцер Лукашук паведаміў госцю студыі, што ў Беларусі зараз шмат гавораць пра небяспеку паглынання краіны Расіяй і спытаўся, якія настроі будуць панаваць у Іркуцку (там, са слоў Алега Рудакова, кожны трэці мае беларускіх продкаў), калі раптам тут пачнецца "данбаскі сцэнар".

"Насамрэч у Сібіры вельмі балюча перажываюць за тое, што зараз адбываецца ва Украіне, – адказаў Алег Рудакоў. – У нас украінцаў вельмі шмат. Сібіракі не ставяцца да ўкраінцаў як да ворагаў. А да беларусаў у Сібіры ставяцца наогул цалкам лаяльна і з вялікай павагай, у тым ліку да самой Беларусі. Ну а калі штосьці такое адбудзецца... Я не магу сабе ўявіць. Гэта немагчыма".

**Паводле euroradio.fm**



КІНО

# ПРЭМ'ЕРА ФІЛЬМА ПА КНІЗЕ МАРЦІНОВІЧА "ВОЗЕРА РАДАСЦІ" – НА ГАЛОЎНЫМ МІЖНАРОДНЫМ ФЕСТЫВАЛІ КАРОТКАГА МЕТРА

30-хвілінная драма беларускага рэжысёра, ураджэнца Баранавічаў, 29-гадовага Аляксея Палуяна была ўзятая ў міжнародны конкурс на галоўны ў свеце кінафестываль кароткага кіно Клермон-Феран (Clermont Ferrand International Short Film Festival) з 9238 фільмаў, прадстаўленых з усяго свету. Беларускія стужкі ніколі да гэтага моманту не траплялі у шорт-ліст сусветнага конкурсу кінафэсту.

Фестываль у гэтым невялікім французскім гарадку з'яўляецца адным з самых прэстыжных: для рэжысёраў гэта як "Канны кароткага метра". Акрамя таго, перамога тут азначае аўтаматычную пуцёўку на Оскар.

Фестываль адкрывае свету шмат маладых кінарэжысёраў, калісьці такімі былі Сэдрык Кляпіш і Франсуа Азон.

У межах фэста-2019 з 1 па 9 лютага адбудзецца 8 паказаў "Возера радасці", фільм паглядзяць на беларускай мове з англійскімі і французскімі субцітрамі.

У аснову фільма па кнізе "Возера радасці" лягла толькі частка кніжкі – дзяцінства галоўнай гераіні Ясі. Але рэжысёр адразу папярэдзіў аўтара Віктара Марціновіча, што будзе змяняць напісанае і будаваць на аснове часткі рамана новае.

"Калі мы сустракаліся з Віктарам для перамоў, я адразу растлумачыў яму, што фільм будзе больш пра майго бацьку. Справа ў тым, што гісторыя майго таты вельмі падобная да той, што адбылася з Ясяй: у таты памерла маці, і тады мой дзядуля адвёз яго ў інтэрнат. Я папярэдзіў Віктара, што буду руйнаваць развіццё падзей, пабудую на матэрыяле новы сцэнар, пакінуўшы толькі галоўнае сэнсавае зерне. І Віктар пагадзіўся, чаму я вельмі рады, бо без гісторыі майго таты не было б гэтага фільма. Ён прысвячаецца яму і маёй сям'і", – падзяліўся з "НН" рэжысёр.

Здымалася стужка цягам кастрычніка 2017 года ў чатырох беларускіх вёсках Ляхавіцкага раёна – Востраў, Альхоўцы, Ліпск і Любейкі.

Асноўным месцам здымкаў былі менавіта Любейкі. Для рэжысёра гэтая вёска не ўпершыню становіцца творчай пляцоўкай: раней ён здымаў тут сваю дакументальную стужку "Край жанчын" пра чатырох мясцовых гераінь. У 2017 годзе гэты фільм быў уганараваны спецыяльным прызам "За вернасць ідэалам у кінамастацтве" на фестывалі "Лістапад".

"Мясцовыя жыхары вельмі дапамагалі нам у здымках. Больш за тое, дзясяткі з іх былі задзейнічаныя ў здымках фільма. Вялікую дапамогу з дазволам на здымкі зрабілі спадар Уладзімір Фёдаравіч Тадра – старшыня Востраўскага сельсавета і былы намеснік старшыні Ляхавіцкага райвыканкама Вячаслаў Лукіч Сельмановіч. Мясцовы бізнесмен Алег Раманоўскі калісьці выкупіў старую Альхоўскую школу, якую зачынілі 3 гады таму. Менавіта ён дазволіў нам пабудаваць там наш "інтэрнат", дзе "жылі" каля 30 дзетак з дзвюх тутэйшых вясковых школ", – расказвае рэжысёр.

Увесь склад акцёраў, цяпер ужо не трымае сакрэтаў Палуян, таксама беларускі. Галоўную гераіню Ясю сыграла Настасся Пляц. Дзяўчынцы 9 год, яна выхаванка магілёўскага дзіцячага інтэрната. Каб знайсці яе, Аляксей з памочнікамі аб'ездзілі не адзін інтэрнат, па волі лёсу дзяўчынку адшукалі менавіта ў апошнім месцы кастынгаў. "Яна вельмі фактурная. Хоць ёй і было на той момант 9 гадоў, па вачах бачна, што яна дарослая і будзе ў гэтым жыцці змагацца. Настачка была для мяне у той дзень дакладна той самая Ясяй, дзеля якой мы праехалі палову Беларусі, – тлумачыць свой выбар Палуян. – Вялікі дзякуй кіраўніцтву Магілёўскай SOS-вёскі, яны нас моцна падтрымалі. Асабліва выхавальніцы Святлане Пятроўне. Было б цудоўна, калі б у мяне атрымалася прывесці Настачку на сусветную прэм'еру ў Францыю. Жадаю, каб яна пабачыла сябе на вялікім экране ў месцы, дзе сустракаюцца тысячы сінеастаў, каб паглядзець сусветнае аўтарскае кіно".

Ролі іншых персанажаў выконваюць вядомыя ў Беларусі акцёры: Ігар Сігоў, Святлана Анікей, Алесь Малчанаў, Алена Зуй-Вайцяхоўская, Тацяна Мархель і Дзяніс Тарасенка. Для Аляксея было прынцыповым працаваць з айчыннымі артыстамі: ён лічыць, што ў нас вельмі моцныя кадры, працаваць з імі – адна асалода, і патрэбы шукаць кагосьці з акцёраў за мяжой няма.

Асаблівую ролю сыграў у фільме зусім выпадкова знойдзены на кастынгу для масоўкі 10-гадовы хлопчык з Востраўскай школы Аляксандр Прымшыц. Ён сыграў ролю Антося, сябра Ясі ў інтэрнаце. 14-гадовая Паліна Кудзіна, таксама з Востраўскай школы, прафесійна ўправілася з роллю Паліны, сяброўкі Ясі.

Рэжысёр дадае: "Гэта асаблівы для мяне фільм, бо ў ім граюць дзеці, якія робяць гэта па-даросламу".

Сяржук Доўгушаў з Настассяй Паповай з гурта "Vuraj" выступаюць у ролі музыкаў на вяселлі. Адна з кампазіцый з іх новага альбома "Lito" прагучыць як адзін з эмацыйных саўндтрэкаў фільма. Што тычыцца тэхнічнага боку каманды, то тут яна атрымалася мегаінтэрнацыянальнай. Акрамя беларускіх спецыялістаў, 5 чалавек з калектыву прыехалі з Германіі, здымаў усё іранскі аператар Бехруз Карамі-задэ, асістэнткі – з Грузіі і Украіны, гукаінжынерам працаваў армянскі балгарын, а фарбакарэкцыяй кіраваў шатландзец. Гэта не кажучы ўжо пра іншую постпрадукцыю.

Бюджэт карціны рэжысёр трымае ў таямніцы.

"Магу сказаць адно: 50% фінансавання складаюць грошы з нямецкага кінафонду, другая ж частка сумы – мае ўласныя сродкі. Тут я выступаю не толькі як рэжысёр, сцэнарыст, але і прадзюсар. Пракатам укладзеныя грошы, канечне, не адбіць. Толькі калі прадаваць на еўрапейскае тэлебачанне, а таксама атрымліваць прызавыя на фестывалях. Аднак мэты зарабіць грошы на гэтым кіно ў мяне не было, была мэта зрабіць моцны фільм, каб пагутарыць з гледачамі на сур'ёзную тэму, ну, і таксама, каб у будучыні атрымаць шанец зняць дэбютны поўнаметражны мастацкі фільм".

Аляксей Палуян спадзяецца, што ў Беларусі мы паглядзім "Возера радасці" ўжо на наступным "Лістападзе". Акрамя гэтага, Аляксей будзе спрабаваць арганізаваць пракат у рэгіёнах, у першую чаргу – у Магілёўскай вобласці і Ляхавіцкім раёне, адкуль паходзяць галоўныя героі.

У найбліжэйшых задачах Аляксея – зрабіць магчымым, каб "Возера радасці" паглядзела як мага больш еўрапейскай публікі. Паралельна рэжысёр працуе над дыпломам: Палуян навучаецца ў інстытуце кіно і тэлебачання ў Акадэміі мастацтваў Касэля (Германія) у майстэрні Яны Друзь. У якасці свайго дыплома ў наступным годзе ён будзе здымаць новую дакументальную стужку, таксама ў Беларусі.

**Кацярына Карпіцкая, "Наша Ніва"**

**вынікі**

# Віктар Марціновіч: “Варушняк. Амаль варушняк”

Давайце пагодзімся з тым, што ў сацыяльным, палітычным і эканамічным сэнсе беларусы проста цяпер перажываюць траўму, якую будуць асэнсоўваць не адно дзесяцігоддзе.

Напрыклад, барацьба з “дармаедствам” мае ўсе шанцы ўвайсці ў нацыянальную міфалогію як нешта абсалютна абсурднае, страшнае ва ўласным дурослі. Гэта нейкі сюжэт з фантастычных казак Баршчэўскага. “Справа “БелТА”, штодзённыя арышты, падставы для якіх спараджаюць нават болей супярэчлівых каментароў, чым завоблачныя турэмныя тэрміны, якія большасць арыштаваных нават не адбывае да канца (бо турмы перапоўненыя) – гэта нават не позні “савок”, гэта нешта іншае. Але, як гэта часцяком бывае, чым большая сцюжа пануе ў грамадстве, тым цікавейшыя культурныя артэфакты, якія, бы крышталі лёду, нарастаюць пад белым зімовым сонцам. Прызнаемся: у той галіне, якая шырока акрэсліваецца паняццем “культура”, у халодным 2018-м годзе здарылася шмат цікавага.



### Памяць

Хто б мог падумаць, што ў 2018 годзе грамадству зноў будзе наканавана вызначыцца са стаўленнем да сталінскіх рэпрэсій. Слова “Курапаты”, што ўзнікала ў вакабуляры дэпалітызаванага чытача партала Тут.бай апошні раз у канцы 1980-х, зноў выйшла ў топы абмеркаванняў. Нават калі б на БТ знялі жалобнае кіно пра расстраляных у 1937 годзе паэтаў, гэта не мабілізавала б масы так, як гэта зрабіла курапацкая варта і лаканічныя паведамленні пра рэгулярныя сутычкі з тымі, каму карціць пажэрці на магілках. Я не маю смеласці сцвярджаць, што большасць беларусаў вызначылася з меркаваннем, што Сталін (ці НКУС, ці рэпрэсіі як такія) – гэта дрэнна. Але прынамсі нейкае меркаванне штотыднёвае ўзнікненне гэтай тэмы ў буйных медыях мусіла выпрацаваць. А гэта вельмі карысна ў сітуацыі, калі гістарычная амнезія ёсць нацыянальнай хваробай. Амаль што прыгожа атрымалася і са святкаваннем 100-х угодкаў БНР: “амаль” – таму што абяцаную за адмову ад мітынгу шыльду дагэтуль мурыжаць.

### Кіно

2018-ы абсалютна дакладна ёсць годам заўважных зрухаў у галіне, у якой зрухаў у нас не было прыкладна з 1985 года (момант выхаду фільма Элема Клімава “Ідзі і глядзі” па сцэнары Алеся Адамовіча; “Ідзі і глядзі” дагэтуль трапляе ў сусветныя рэйтынгі “100 самых моцных фільмаў XX стагоддзя”). Можна па-рознаму ставіцца да сцэнарных калізій “Крышталя” Дар’і Жук, але тое, што мінская прэм’ера сталася нечым прынцыпова новым для твані, у якую быў пагружаны кінематограф шэдэўрамі кшталту “На спіне ў чорнага ката”, – неаспрэчна. Траплянне фільма Аляксея Палуяна “Возера радасці” ў асноўную праграму фестывалю ў Клермон-Феране (пра гэтае кіно нам яшчэ давядзецца шмат пачуць у 2019-м) – сведчанне таго, што мы маем справу не з адзінкавымі праявамі, а з тэндэнцыяй. Якая палягае ў тым, што за гады незалежнасці нарадзілася, выгадавалася (часцяком – за мяжой) генерацыя маладых творцаў, якія глядзяць на Беларусь вачыма еўрапейцаў і здольныя распавядаць пра яе так, каб гэта разумелі за акіянам. І асобна віншую ўсіх датычных да кінавытворчасці ў Беларусі з адстаўкай Ірыны Дрыгі з пасады намесніка міністра культуры. Тыя, хто ў тэме, зразумеюць. Гэта амаль падзея. Амаль – таму што толькі наіўныя людзі могуць думаць, што ад персоны чыноўніка ў такой сістэме кіравання, як сучасная Беларусь, можа залежаць нешта прынцыповае.

### Жывапіс

Як ні дзіўна, падзеяй года ў галіне выяўленчага мастацтва зрабілася выстава Язэпа Драздовіча ў Нацыянальным мастацкім музеі. Па значнасці для гісторыі жывапісу, уплыву на музейную справу, па сувязі з пытаннямі памяці і культурнага вызначэння яе проста немагчыма супаставіць з некалькімі ўдалымі вернісажамі, што адбыліся на прыватных пляцоўках. У цудоўнай Беларусі будучыні імем Драздовіча – летуценніка-візіянера, які візуалізаваў незалежнасць задоўга да таго, як яна адбылася, – будуць названыя галоўныя праспекты нашых гарадоў, вобразы з ягоных карцін будуць упрыгожваць нацыянальная грошы. Ну а пакуль прозвішчы Рэпіна, Шышкіна ці Айвазоўскага любому беларускаму школьніку нашмат бліжэйшыя за дзядзьку Язэпа. Тым значнейшая тая выстава, якую зладзілі ў дзяржаўнай галерэі. Яе можна было б назваць годнай данінай памяці нашага славутага земляка. Але і тут просіцца слова “амаль”. Амаль шыкоўнай. Амаль данінай памяці. Бо, выстаўляючы Драздовіча, Нацыянальны мастацкі чамусьці вырашыў не экспанаваць самы галоўны для Беларусі ягоны твор – славутую “Пагоню”.

### Мова

Апошнія 12 месяцаў тэндэнцыя, якую еўразійскія рэсурсы акрэслівалі як “паўзучую беларусізацыю”, працягвала сваё павольнае (“паўзучае”) развіццё. Пра неабходнасць пашырэння ўжытку роднай гаворкі ў 2018-м двойчы сказалі на найвышэйшым узроўні. На мове забалбаталі праграмы ў тэлевізары – з ліку тых, якія раней было не западозрыць у цёплых пачуццях да здабыткаў адраджэння. Цяпер кажуць пра хуткае вяртанне мовы ў вышэйшую школу і нават пра пашырэнне часоў, аддадзеных на яе ў звычайнай сярэдняй школе. Паболела мовы і ў горадзе, і ў транспарце, і ў рэкламе. Прайшоўшы па вуліцах Мінска, можна нават адчуць сабе не ў заснежаным Свярдлоўску, а ў нейкай там сталіцы нейкай там асобнай дзяржавы, якая нават мае сваю незалежную мову.

Без слова “амаль” да гэтай перамогі паставіцца будзе цяжка, успомніўшы гісторыю змагання групы бацькоў за стварэнне беларускамоўных групаў у дзіцячых садках. Гледзячы цвярозым позіркам, можна засведчыць: беларускія дзеткі працягваюць гадавацца на гаворцы рускага мульціка “Маша і мядзведзь”.

*

Як бачыце, добрых навінаў у 2018 годзе было дастаткова. І адзіная праблема – у тым, што большасць з іх ну як бы не да канца добрая. Год амаль перамогаў. Амаль здзяйсненняў. Год зрухаў на міліметр. Калі такіх гадоў у Беларусі наперадзе сотні – не бяда. Прарвёмся. Абеларусімся. Пераможам. Але ж аднекуль падціскае адчуванне, што перыяд неаспрэчнага суверэнітэту, бесклапотнага існавання ва ўласнай самасці можа аднойчы скончыцца. І тады за кожнае “амаль” у гэтым тэксце будзе вельмі і вельмі крыўдна.

**Віктар Марціновіч, budzma.by**

# Узнагароджанне медалём да стагоддзя БНР

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі абвяшчае пра ўзнагароджанне Медалём да стагоддзя Беларускае Народнае Рэспублікі. Адпаведны дэкрэт падпісаны Старшынёю Рады БНР.

Згодна са сваім статутам, Медаль уручаецца за пажыццёвыя заслугі ў працы дзеля здзяйснення ідэалаў Акта 25 сакавіка 1918 г., у тым ліку за даследаванні і папулярызацыю беларушчыны, здабыццё і ўмацаванне дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, барацьбу за свабоду і дэмакратыю ў Беларусі.

Медаль уручаецца:

– Асобам, якія адзначыліся на ніве змагання за волю і незалежнасць Беларусі,

– Выбітным грамадскім і культурніцкім дзеячам у Беларусі і сярод беларускага замежжа,

– Замежнікам, якія спрычыніліся да даследаванняў і папулярызацыі Беларусі ў свеце, а таксама іншым чынам спрыялі нацыянальным інтарэсам Беларусі.

Сярод узнагароджаных – першы амбасадар ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц і амбасадар Швецыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан; палітыкі і грамадскія дзеячы; ветэраны беларускага незалежніцкага руху і палітычныя вязні; даследчыкі Джым Дынглі, Арнольд Макмілін, Адам Мальдзіс; акадэмік Радзім Гарэцкі; пісьменнік Уладзімір Арлоў; ствральнікі эталона дзяржаўнага герба “Пагоня” Аляксей Марачкін і Леў Талбузін; і многія іншыя.

Агулам узнагароджаны больш за 130 асоб з Беларусі і замежжа.

Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на працягу 2019 года.

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі**



kultura

# JAHAJŁAŬSKI ŠLACH

Kali ja čytaŭ knihu „Па Прыпяці па Нобэль”, napisanuju Hannaj Kandraciuk, mianie nie pakidali supiarečlivyja pačućci zadavalnieńnia i smutku.

Zadavalnieńnie brałasia z taho, što ja čytaŭ knihu nastolki cikavuju i zajmalnuju, što mnie zachaciełasia pračytać da kanca 300 staronak pra ŭkrainskaje Paleśsie – to bok, pra niešta davoli dalokaje ad majho śvietu. Nia ŭspomniu ŭžo, kali mnie tak achvotna čytałasia napisanaje padlaskim biełarusam. Chutčej za ŭsio, heta była knižka Michasia Andrasiuka „Wagon drugiej klasy”.

A moj smutak naviejvała refleksija, što takich čytačoŭ jak ja, jakija ŭ zmozie adoleć 300-staronkavuju kiryličnuju knihu da kanca, na Padlaššy naźbirajecca niašmat. Chutčej dziasiatak, čym sotnia. Kali mieć na ŭvazie, što letaś u Polščy 62% čałaviek nie pračytali nivodnaj knihi, to spadziavacca, što padlaskija biełarusy u hetym sensie lepšyja (da taho ž – u čytańni kirylicy), nijak nie vypadaje. Naadvarot, majučy na ŭvazie ciažkaści z zasvojvańniem kirylicy, treba čakać značna horšaha pakaźnika čytalnictva pa-biełarusku. (Kali ja sustrakaŭsia ź liceistami ŭ Hajnaŭcy ŭ kastryčniku 2017 i zapytaŭsia, chto ź jich moža čytać kiryličny tekst PRYBLIZNA TAK SVABODNA, jak łaciničny, siarod 40 prysutnych maładych ludziej uźniałasia tolki adna ruka. Voś takija ŭ nas perspektyvy čytańnia kirylicy).

Zrazumieła, biełaruskamoŭnyja piśmieńniki na Padlaššy nia źmieniać ni školnaj systemy navučańnia biełaruskaj movy ŭ bok jaje bolšaj atrakcyjnaści, nie pieraviaduć aficyjnaj biełaruskaj hramatnaści z kirylicy na łacinku (choć pačać pisać i publikavać na biełaruskaj łacincy jany mahli b biaz bolšych prablemaŭ navat zaŭtra). Tamu jany nibyta asudžany na marhinalnaść siarod čytačoŭ. Ale jość, tak skazać, marhinalnaść abjektyŭnyja i subjektyŭnyja. Škoła, jakaja nie zaachvočvaje da čytańnia biełaruskaj litaratury pa-za ŭrokami – heta abjektyŭnaść. Pryviazka biełaruskich piśmieńnkaŭ da štoraz bolš čužoj dla maładych pakaleńniaŭ kirylicy – heta subjektyŭnaść. Vybar piśmieńnikami temy i jaje lakalizacyja ŭ prastory – taksama subjektyŭnaść. Z abjektyŭnaściu vajavać niama sensu, navat niemahčyma. Subjektyŭnaść možna mianiać.

Vydatnaja kniha Hanny Kandraciuk pra padarožža ŭzdoŭž ukrainskaj častki Prypiaci – heta vypadak, tak skazać, subjektyŭnaj marhinalnaści. Jaje nie pračytajuć „masava” ni na Padlaššy (azbuka nia taja i tema nie pra nas, a pra ukraincaŭ), ni na ŭkrainskim Paleśsi (z temaj i azbukaj usio dobra, ale mova nia taja), ni ŭ Biełarusi (z azbukaj i movaj OK, ale tema nia taja).



Maja parada adnosna biełaruskaj piśmiennaści na Padlaššy, jak dumaju, čytačam „Czasopisa” ŭžo viadomaja – pisać pa-biełarusku treba dla svaich padlaskich čytačoŭ, łacinkaj i pra svajo. Harantyi, što čytalnictva ŭ takim vypadku vyraście, nichto nia dašć, ale treba ž niešta rabić, kab vyjści ź ciapierašniaj vidavočnaj tupikovaści.

Što b napisaŭ ja zamiest „Па Прыпяці па Нобэль”, kali b u mianie byŭ taki talent i drajv padarožnika, jak u Hanny? Ja vybraŭsia b u padarožža nia ŭzdoŭž Prypiaci ci Buha, a ŭzdoŭž „Jahajłauskaha šlachu” – histaryčnaj, „karaleŭskaj” darohi, jakaja bolš za dva stahodździ (1386-1611) złučała staličnuju Vilniu z staličnym Krakavam i častkova prachodziła praz naša Padlašša, bolš-mienš tak: Juraŭlany, Krynki, Haradok, Vanieva, Narva, Kleniki, Pasynki, Bielsk, Krasnaje Siało, Šešyły, Žerčycy, Milejčycy, Radziviłaŭka, Mielnik. Napisaŭ by pra historyju hetych padlaskich miestaŭ, siołaŭ i viosak dy pra ichny dzień siahońniašni. Jak-nijak, hetyja miescy ŭ pryvatnaści i naša Padlašša ŭ ahulnaści – apošni šmatok kolišniaj Rečy Paspalitaj ź jaje moŭnymi, kulturnymi i relihijnymi asablivaściami. Sutyk łacinskaj cyvilizacyi ź bizantyjskaj.

Lišnie kazać, što ja napisaŭ by taki repartaž z padarožža pa historyji i sučasnaści Jahajłauskaha šlachu pa-biełarusku, pa-polsku i pa-padlasku pad adnoj vokładkaj. I łacinkaj.

**Jan Maksimjuk,**
**czasopis.pl**

# МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫ ПРАЕКТ ІРКУЦКАГА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ІМЯ ЧЭРСКАГА СТАЎ НАЙЛЕПШЫМ У РЭГІЁНЕ

Нацыянальную прэмію “Грамадзянская ініцыятыва” заснаваў Камітэт некамерцыйнай арганізацыі “Фонд Кудрына па падтрымцы грамадзянскіх ініцыятыў”.

Яе праводзяць ужо ў 25-ы раз на знак грамадскага прызнання за сацыяльныя праекты, сярод якіх барацьба з прыцясненнем грамадзянскіх свабод, ініцыятывы ў сферы адукацыі, навукі, культуры, мастацтва, дапамога пацярпелым ад стыхійных бедстваў, экалагічных, прамысловых або іншых катастроф, дапамога ў пошуку зніклых. У 2018 годзе жыхары Іркуцкай вобласці прадставілі 204 сацыяльна значныя праекты ў 13 намінацыях.

У Іркуцку цырымонію ўзнагароджання лаўрэатаў рэгіянальнага этапу арганізавалі ўпершыню. Адзначыць найлепшых прыехаў прадстаўнік Камітэта грамадзянскіх ініцыятыў, вядомы расійскі рэжысёр Юлій Гусман. “За час правядзення прэміі мы пераканаліся, што ёсць тысячы людзей і арганізацый, якія робяць мноства добрых спраў. Гэта наша багацце, – зазначыў ён у сваім выступе. – Клопат, дабрыня, міласэрнасць павінны быць часткай нашай грамадзянскай супольнасці, таму што ўскладаць усе свае надзеі і планы на чыноўнікаў – няправільна. Мы гаспадары ў сваім доме і павінны быць гаспадарамі ў сваім горадзе, у сваёй краіне. Гэта падмурак той грамадзянскай супольнасці, якую мы будуем. Гэта прэмія для людзей, якія робяць добрыя справы бескарысліва, у гэтым яе сэнс і значэнне”.




Рэжысёр Юлій Гусман і кіраўнік праекта “Фестываль нацыянальных культур “Сузор’е дружбы” Алена Сіпакова

Найбольшую колькасць галасоў набраў праект “Фестываль нацыянальных культур “Сузор’е дружбы” рэгіянальнай грамадскай арганізацыі “Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Я.Д. Чэрскага” ў намінацыі “Наш агульны дом – Расія”.

– Гэты праект дапамагае кожнаму задумацца, адкуль прыехала яго сям’я, адкуль яго род. Фестываль “Сузор’е дружбы” даказаў: наша шматнацыянальная Іркуцкая вобласць паважае і добразычліва ставіцца да нацыянальных пачуццяў іншых народаў, бо кожны народ – гэта дар божы, – падзялілася уражаннямі кіраўнік праекта Алена Сіпакова.

**Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Я.Д. Чэрскага**

**кніга**

# Віктар Хурсік: “Магдаленай Радзівіл я зацікавіўся не толькі як палітычнай асобай, але як жанчынай”

У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь было прадстаўлена дакументальнае даследаванне жыцця і дзейнасці Магдалены Радзівіл з роду Завішаў, кніга Віктара Хурсіка “Vale!”.

– Жыццё любой жанчыны – вялікая таямніца, – адзначыў выдавец і журналіст Віктар Хурсік. – Жанчына – перш за ўсё маці, дае жыццё, працягвае род. Спачатку такі падыход быў у мяне і да Магдалены Радзівіл. Я бачыў у ёй сухую пані, якая распараджаецца грашамі, ажыццяўляе маёмасныя справы. Але чым далей я знаёміўся з дакументамі, тым усё больш паўставаў перада мной вобраз незвычайнага чалавека. Яна была адораная не столькі прыроднай прыгажосцю, як незвычайнай жаночай абаяльнасцю. Мусіць толькі мужчыны могуць ацаніць, што гэта такое. Усе мужчынскія позіркі заўсёды былі скіраваны да Магдалены. Я падумаў: “А чаму я застаюся ў баку?” Я таксама захацеў адчуць пах яе цыгарэткі і выдатных французскіх духоў. Сапраўды гэтую жанчыну нельга было абысці ўвагай. Яе пакручасты лёс не мог пакінуць і мяне раўнаважным.




**Віктар Хурсік**
**выдавец, журналіст. Галоўнае крэда даследчыка: падзеі павінны падавацца так, як засведчана ў дакументах. Першую кніжку, якую ён напісаў пра Магдалену Радзівіл, была “Белы лебедзь у промнях славы”.**

У кнізе пра род і лёс Магдалены Радзівіл прадстаўлены біяграфічныя факты. Дзякуючы ім аўтар высвечвае гістарычную непарушнасць беларускага этнасу. Выснова такая зроблена і ў адносінах да Завішаў, як буйных беларускіх магнатаў, і простых сялян, чые імёны таксама прыводзяцца ў кнізе. Асноўная думка даследавання ў тым, што нацыянальная адметнасць беларусаў у мінуўшчыне відавочная, не патрабуе доказаў.

Аўтар на працягу многіх гадоў працаваў у архівах Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі. Адкрыццём у кнізе з’яўляюцца лісты да Магдалены, яе асабістыя ўспаміны, тэстамент і, канешне, яе фотаздымкі, якія друкуюцца ўпершыню. Іх перадалі ўнукі і праўнукі Магдалены Радзівіл. У кнізе прыводзяцца спасылкі больш чым на 300 крыніц. Гэта пераважна архіўныя дакументы, якія распавядаюць пра род Завішаў у кантэксце гістарычных падзей і ў сямейным жыцці, паказваюць месца магнатаў у час падзелаў Рэчы Паспалітай. І хоць кніга “Vale!” ужо пабачыла свет, даследаванне не спыняецца.

– Яшчэ дасканала не даследаваны літоўскія архівы, не перакладзены тысячы пісьмаў Магдалены Радзівіл з французскай мовы, – кажа Віктар Хурсік. – Кожны дзень з’яўляюцца новыя звесткі. Аднаўляецца яе маёнтак у Кухцічах. Буду і далей працаваць у архівах Польшчы. Вельмі дапамагае ў справе напісання роду праўнук Магдалены Радзівіл. Дзякуючы яму кніга перакладаецца на польскую мову. Упэўнены, у суседняй краіне яна выклікае такое ж здзіўленне, як і ў нас. Увогуле ж я дзіўлюся: многія людзі ўжо ведаюць Магдалену Радзівіл як мецэнатку, грамадскую дзяячку. Сапраўды адбываецца вяртанне яе на Радзіму, нанова адкрываецца імя. Вялікі грамадскі рэзананс выклікала і падзея пачатку года – перапахаванне парэшткаў Магдалены Радзівіл у касцёле Святога Роха ў Мінску.

Назва кнігі “Vale!” азначае “бывайце!”. “Vale!” – сумна развітваецца Магдалена на тытульнай старонцы кнігі. – Ці правільна я зрабіла, што паставіла мэтай жыцця адраджэнне Беларусі, – судзіць вам. Я любіла сваю зямлю, свой народ... На жаль, мне не дадзена ўбачыць яго росквіт. Vale!”

**Кацярына Мядзведская,**
**“Народная Воля”**

**in memoriam**

# Памёр выдатны гісторык Юры Туронак

2 студзеня ўранку на 90-м годзе жыцця памёр выдатны беларускі гісторык Юры Туронак.



Юры Туронак нарадзіўся ў 1929 г. у Дукштах (сёння гэта Літоўская Рэспубліка). У Дукштах працаваў ягоны бацька, вядомы дзеяч заходнебеларускага руху лекар Браніслаў Туронак. Пры канцы Другой сусветнай вайны маці Ю. Туронка – муж зaўчасна памёр у 1938 г. – вырашыла вярнуцца на радзіму бацькоў, на Беласточчыну. А ў 1945 г. потым, як вядома, Сталін аддаў Беласточчыну ПНР. Так Юры Туронак і апынуўся ў Польшчы.

У Варшаве ён скончыў Галоўную школу планавання і статыстыкі. Працаваў у Польскай замежнагандлёвай палаце, даследаваў кан’юнктуру міжнароднага хімічнага рынку, нават працаваў у Еўрапейскай эканамічнай камісіі ў Жэневе. Паралельна браў актыўны ўдзел у беларускім руху ў Польшчы, узначальваў грамадска-культурнае таварыства. Ад пачатку 1960-х Юры Туронак захапіўся гістарычнымі даследаваннямі.

Ён вывучаў нацыянальны рух пачатку XX ст., беларуска-польскія дачыненні ў XX ст., гісторыю рыма-каталіцкай царквы ў Беларусі. У 1986 г. у Варшаве абараніў доктарскую дысертацыю “Беларусь пад нямецкай акупацыяй”. У 1993 г. кніга выйшла па-беларуску ды зрабілася бестселерам. У 2007 г. яна вытрымала другое выданне, з праўкамі ды ўдакладненнямі аўтара.

Юры Туронак таксама аўтар такіх кніг, як “Беларускае школьніцтва на Беласточчыне” (1976), “Беларуская кніга ў Другой Рэчы Паспалітай” (2000), “Беларуская кніга пад нямецкім кантролем” (2002), “Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі” (1992, 2007). Дарэчы Іваноўскі таксама быў выдатным хімікам. У 2006 г. ягоныя ранейшыя працы былі перадрукаваныя ў зборніку пад агульнай назвай “Мадэрная гісторыя Беларусі”.

На пенсіі зімы ён праводзіў у Варшаве, у сваёй кватэры каля вуліцы Новы Свет, а лета – на малой радзіме, на Падляшшы. Да апошняга сачыў за ўсім беларускім жыццём, з унукамі размаўляў толькі па-беларуску. Гэта быў адзін з Вялікіх Беларускіх Інтэлігентаў, класікаў.

**“Наша Ніва”**

## Беларускі каляндар памятных дат на студзень 2018 года

1 студзеня – 90 гадоў таму, у 1929-м, у Мінску адкрылася Беларуская Акадэмія Навук (з 1991 г. Нацыянальная акадэмія навук Беларусі)

2 студзеня – 155 гадоў таму, у 1864-м, павешаны Ігнат Здановіч і Мечыслаў Дарманоўскі, удзельнікі паўстання 1863–1864 гг.

3 студзеня – 240 гадоў таму, у 1779-м, нарадзіўся Францішак Дзеружынскі, адзін з пачынальнікаў адукацыйнай сістэмы каталіцкай царквы, заснавальнік універсітэтаў у ЗША.

3 студзеня – 75 гадоў таму, у 1944-м, нарадзіўся Міхась Раманюк, мастак, этнограф.

4 студзеня – 150 гадоў таму, у 1869-м, нарадзіўся Ядвігін Ш. (сапр. Антон Лявіцкі), пісьменнік.

6 студзеня – 105 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Тодар Лебяда (сапр. Пятро Шырокаў), пісьменнік.

6 студзеня – 100 гадоў таму, у 1919-м, нарадзілася Аўгіння Каранеўская (дзявоч. Воўк-Левановіч), дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

6 студзеня – 15 гадоў таму, у 2004-м, памёр Янка Юхнавец, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

7 студзеня – Каляды (Раство Хрыстова) паводле юльянскага календара.

7 студзеня – 55 гадоў таму, у 1964-м, памёр Янка Журба (сапр. Івашын), паэт.

8 студзеня – 140 гадоў таму, у 1879-м, нарадзіўся Флягонт Валынец, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху.

10 студзеня – 70 гадоў таму, у 1949-м, загінуў Міхаіл Сазыка, вайсковец, спявак, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

10 студзеня – 15 гадоў таму, у 2004-м, памёр Алесь Усюкевіч, адзін з кіраўнікоў Саюза Вызвалення Беларусі ў Навагрудку.

11 студзеня – 155 гадоў таму, у 1864-м, расстраляны Цітус Далеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

12 студзеня – 100 гадоў таму, у 1919-м, нарадзіўся Васіль Хомчанка, пісьменнік.

14 студзеня – 125 гадоў таму, у 1894-м, нарадзіўся Пётр Юргялевіч, мовазнавец.

15 студзеня – 40 гадоў таму, у 1979-м, памёр Алесь Якімовіч, дзіцячы пісьменнік.

15 студзеня – 25 гадоў таму, у 1994-м, памёр Генадзь Каханоўскі, гісторык.

17 студзеня – 115 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Алесь Якімовіч, дзіцячы пісьменнік.

17 студзеня – 15 гадоў таму, у 2004-м, памёр Віталь Кажан, вайсковы дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

19 студзеня – 75 гадоў таму, у 1944-м, забіты Мікола Чарнецкі, грамадскі дзеяч.

23 студзеня – 130 гадоў таму, у 1889-м, памёр Ігнат Дамейка, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху, геолаг, нацыянальны герой Чылі.

23 студзеня – 25 гадоў таму, у 1994-м, памёр Янка Ролсан (сапр. Янка Гадзіцкі), паэт, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

24 студзеня – 115 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Янка Шутовіч, выдавец.

24 студзеня – 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Пятрусь Граніт (сапр. Іван Івашэвіч), паэт.

25 студзеня – 150 гадоў таму, у 1869-м, нарадзіўся Адам Гурыновіч, паэт.

26 студзеня – 25 гадоў таму, у 1994-м, памёр Алесь Адамовіч, пісьменнік.

28 студзеня – 130 гадоў таму, у 1889-м, нарадзіўся Язэп Мамонька, палітычны дзеяч.

29 студзеня – 135 гадоў таму, у 1884-м, нарадзіўся Антон Луцкевіч, гісторык, старшыня ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Беларусы ў свеце**
No 12 (199), снежань 2018

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27